Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 200.000 м.

BIBLIOTEKA LIETUVOS MOKSLŲ AKADEMIJOS

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.500000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 300.000 мк., сярод тэксту 250.000 м. і на 4 стр. 200.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 10 (31). Вільня, Чацьвер, 31-га студзеня 1924 г. Год II.

## Беларускае Грамадзянскае Сабраньне

**ПАВЕДАМЛЯЕ** Сяброў Сабраньня, што 2, 3 лютага г. г. а 5 гадзіне ў вечары ў памешканьні Сабраньня (Віленская 12—1)

**АДБУДЗЕЦЦА**

## АГУЛЬНЫ СХОД СЯБРОЎ.

ПАРАДАК ДНЯ:

2 лютага: прыняцьце кандыдатаў у лік Сяброў Сабраньня.

3 лютага: 1) справаздача Ураду; 2) Рэвізыйнае Камісіі; 3) зацьверджаньне буджэту на 1924 год; 4) Давыбары ў Раду Старшынь і Рэвізыйную Камісію; 5) Устанаўленьне Сяброўскіх узносаў і 6) Бягучыя справы.

Прысутнасьць усіх сяброу абавязкова.

**Пажадана прысутнасьць прадстаўнікоў ад беларускіх інстытуцыяў.**

Асобных запросін ня будзе.

Прадсядацель Рады Старшынь **Валэйша.**

# Задачы дня.

Немагчымасьць стварэньня „правіцовае“ ці „лявіцовае“ большасьці ў Сойме, роля, якую ў ім іграюць прадстаўнікі „нацыянальных меншасьцяў“, паміж якіх нельга стварыць абапёртага на сталай большасьці ўраду, вельмі малая лічба запраўды творчых сіл сярод паслоў „пануючае нацыі“ — вось прычыны, дзеля якіх з розных бакоў, а перад усім з боку партыяў распаўшаеся „польскае большасьці“—ад „Пяста“ ўправа—чутны галасы аб патрэбе роспуску гэтага Сойму і скліканьня новага. А „самаагранічэньне“ Сойму ў яго правох аднэсна да справаў фінансаў гаспадарства, перадача часьці гэтых правоў выканаўчай уладзе—гэта першы крок Сойму да самаліквідацыі.

Права-нацыяналістычныя партыі напружаюць увесь свой спрыт дзеля вынаходу спосабаў, якія пры новых выбарах Сойму далі-бы магчымасьць дапяць дзьве мэты: *ня пусьціць у Сойм паслоў ад „нацыянальных меншасьцяў“ і забясьпечыць большасьць мейсц у Сойме прадстаўніком багацейшых клясаў—капіталістаў, фабрыкантаў, абшарнікаў і сялян-багатыроў, што йдуць разам з панамі.* І барацьба з сучасным Соймам (—праўда, ня вельмі здольным да творчае дзяржаўнае працы) вядзецца пад лёзунгам *пазбаўленьня прадстаўніцтва няпольскага насяленьня і працоўных масаў наагул, нават і польскіх.*

Каб легальна перад часам распусьціць Сойм, выбраны, згодна з Канстытуцыяй, на пяць гадоў, патрэбна згода кваліфікаванае большасьці — дзьвюх трацін паслоў Сойму, альбо $^3/_5$ Сэнату. І хаця права-нацыяналістычныя партыі гэткае большасьці тамака ня маюць, усё-ж такі „дзеля дабра дзяржавы“ Сэнат можа даць сваю згоду на роспуск Сойму—падобна да таго, як Сойм даў згоду на абмежаваньне ягоных законадаўчых правоў.

Такім парадкам трудна верыць, каб гэты Сойм, які самым сваім складам запярэчыў усім афіцыяльным байкам аб „нацыянальна-польскім“ характары Польскае дзяржаве ў сучасных яе межах, каб ён дажыў да канца назначанае яму Канстытуцыяй „пяцілеткі“. Тым больш, што выкрыцьце фашыстаўскае проціканстытуцыйнае змовы П. П. П. паказвае, што польскі нацыяналізм і польская рэакцыя, калі-б ім не ўдалося дапяць сваей мэты легальнай дарогай, гатовы пайсьці і па дарозе *гвалтоўнага дзяржаўнага перавароту.*

Прыймаючы ўсё гэта пад увагу, трэба нашаму грамадзянству ўжо загадзя рыхтавацца да магчымых новых выбараў у Сойм. Тое, што цяперашні Сойм *нічога нам ня даў*, зусім не павінна зьнеахвочываць беларусаў да далейшае барацьбы за сваё права мець належны голас у найвышэйшых законадаўчых установах дзяржавы, да якой наш край далучаны аружнай сілай, пакуль для нас наагул яшчэ магчыма парляманцкая барацьба. І мы павінны пачаць ужо цяпер шырокую падгатаваўчую працу ў гэтым кірунку.

Перш за ўсё мы павінны памятаць, што *наша выбарная перамога* будзе залежаць ад *сьвядомых адносінаў* да спадзяваных новых выбараў з боку *беларускага насяленьня Заходняе Беларусі.* Насяленьне гэтае, зусім панятна, з кожным днём губляе веру ў карысьць парляманцкае барацьбы на грунце польскага Сойму, а вынікам гэтага вельмі лёгка можа аказацца масавае ўхіленьне ад учасьця ў выбарах. Вось-жа адпаведная *падгатоўка нашых выбаршчыкаў* і зьяўляецца першай задачай нашых палітычных групаў і арганізацыяў, а перад усім нашых сучасных прадстаўнікоў у Сойме, Беларускага Пасольскага Клюбу. Павінна быць разьвіта самая энэргічная пасольская праца на правінцыі, павінна быць устаноўлена самая цесная сувязь з беларускай вёскай, павінна быць налажана ўсебаковае асьведамленьне яе аб утварыўшымся палітычным палажэньні. *Спраўздачныя мітынгі, зьезды цэлых паветаў*— вось першыя крокі, якіх асабліва вымагае сучасны мамэнт.

Але выбары ў Сойм, што адбыліся ў 1922 годзе, паказалі, што ўжо пры старым выбарным законе нельга было апірацца *толькі на свае, беларускія сілы.* Выбарны закон быў уложаны так, каб чым менш мандатаў дасталася „нацыянальным меншасьцям“. Каб ня даць сябе ў крыўду, „меншасьці“ тады аб'ядналіся ў саюз—выбарны блёк. — Калі-ж гэты Сойм будзе распушчаны, дык трэба спадзявацца, што новыя выбары адбудуцца па новаму закону, які лёгка можа аказацца для нас *яшчэ горшым.* Аб гэтым сьведчаць праекты, друкаваныя ў права-нацыяналістычных газэтах. І мы, цьвёрда апіраючыся на свае, беларускія сілы, павінны загадзя шукаць сабе *саюзьнікаў.*

Стары выбарны блёк (№ 16)—гэта было чыста *тэхнічнае* аб'яднаньне *нацыянальнасьцяў*: сярод гэных нацыянальнасьцяў былі розныя сацыяльныя групы—часта з рэзка супярэчнымі інтарэсамі і імкненьнямі, дык блёк і ня мог стацца нечым сталым, ня мог перайсьці ў Сойм, бо пры творчай дзяржаўнай працы інтарэсы нацыянальнасьцяў і сацыяльных клясаў пачалі расходзіцца ў розныя бакі. Так, бывалі галасаваньні, калі беларускія і украінскія паслы галасавалі *за*, жыдоўскія—*проці*, і наадварот, бо сярод першых пераважалі прадстаўнікі працоўных масаў, сярод другіх—прадстаўнікі буржуазіі.—Вось-жа мы і думаем, што, шукаючы саюзьнікаў на прыпадак новых выбараў, нам трэба будзе ўглядацца на тое, каб нас з імі злучалі ня толькі мімалётныя выбарныя інтарэсы, але і *супольныя сацыяльныя інтарэсы.* Тады саюз наш з імі перажыве самыя выбары і пяройдзе ў Сойм, *узмацовываючы сілы прадстаўніцтва працоўных масаў наагул.*

Аднаго такога саюзьніка мы ўжо маем: гэта *украінцы.* Яны найбліжэй да нас па сацыяльнаму складу насяленьня, іх сацыяльныя інтарэсы і імкненьні блізу зусім не разыходзяцца з нашымі. І мы ўжо чулі запаведзі нашых паслоў аб цясьнейшым аб'яднаньні Беларускага і Украінскага Пасольскіх Клюбаў ды, на вялікі жаль, гэныя гутаркі асталіся гутаркамі, а шумныя запаведзі ні да чаго не давялі... А тым часам перажываны мамэнт асабліва вымагае зьдзейсьненьня думкі аб конфэдэрацыі Беларускага і Украінскага Клюбаў—і то *неадкладнага.*

Але гэтага мала. Калі зьдзейсьняцца пляны паноў Вітасаў і эндэкаў, дык нашымі натуральнымі саюзьнікамі могуць аказацца ня толькі працоўныя масы усіх другіх „меншасьцяў, але нават і польскія, якім усё цяжэй і цяжэй жывецца у „сваім“ гаспадарстве, апанаваным „сваімі“ капіталістамі, фабрыкантамі і абшарнікамі. І вось перад намі другая актуальная задача: ўвайсьці ў кантакт ня толькі з „інароднымі“, але такжа і з тымі польскімі работніцкімі і сялянскімі арганізацыямі, якія ня дзеля „палітыкі“, а запраўды шчыра йдуць насустрэчу нашым нацыянальным дамаганьням, не аглядаючыся на тое, ці гэта „падабаецца“, ці „непадабаецца“ „прыражонаму гаспадару“ Польскае дзяржавы, „пануючай“ польскай нацыянальнасьці. На вялікі

13449 240415

жаль, у гэтым кірунку йдуць далёка ня ўсё арганізацыі польскага пралетарыяту, і разьвязаць гэту чародную задачу нам будзе ўжо шмат трудней, чым, прыкладам, зьдзейсьніць даўно псыхалягічна дасьпеўшы беларуска-украінскі саюз.

Як-бы там ні было, нашаму Пасольскаму Клюбу пара выявіць *больш энэргіі* і *актыўнасьці*. Сам факт істнаваньня ў нас „недатыкальных" паслоў, маючых поўную свабоду руху і... права бязплатных разьездаў чыгункамі, гэта *вялікі козыр на прыпадак новых выбараў*. Але ня трэба забывацца, што гэты „козыр" будзе мець сілу *толькі да мамэнту роспуску Сойму*. І калі яго ў свой час ня выкарыстаем да канца, дык ён сам сабой змарнуецца.

Панове паслы: не забывайцеся, што гром можа ўдарыць кожную мінуту!

Periculum in mora!

# Ці толькі—„Без кравату"??.

(Хаўтуры Сойму).

„Będzie gorzej!".
*Witos.*

Ня гледзячы на тое, што сучасны Сойм пражыў толькі каля году, а мае законнага жыцьця йшчэ каля чатырох гадоў, па ўсей лініі польскай прэсы пачалася амаль не запраўдная „выбарная кампанія"..

Пры гэтым найбольш цікава, што з боку „народовага абозу" агітацыя вядецца ня толькі за разьвязаньне гэтага Сойму, бо пасьля 7-месячнай „гаспадаркі" Хьена-Пяста новыя выбары абярнуліся-б для яго ў запраўдны пагром па ўсяму краю...

„Народовая Польшча" йдзе шмат далей — у імкненьні да сваей „рэальнасьці"...

Яна хоча гэтак зьмяніць самы выбарны закон, каб новыя выбары—у разрэз з агульным настроем краю, наперакор уцямленаму шырокімі народнымі масамі досьледу,—проці яўнага дзяржаўнага інтарэсу — ратаваньня гаспадарства ад люда- і скарба-едаў, каб новыя выбары далі згары загварантаваную перамогу якраз гэтым жываглотам...

Здавалася-б, што гэтак цынічна пастаўленая зусім недарэчная і шкодная мэта мае ў сабе даволі лёгічнай і палітычнай недарэчнасьці, каб напавал забіць увесь пабудаваны на ёй плян недабітага йшчэ ў краі сваім яўным банкруцтвам Хьена-Пяста..

Але як об‘ектыўныя абставіны, так сама і суб‘ектыўная „умысловасьць" у Польшчы зламыліся так, што гэтая абсалютна недарэчная рэч ня толькі паважна трактуецца ў газэтах, і ня толькі хьена-пястоўскіх, але, дзіўна сказаць, — ці ня мае поўнай магчымасьці ці можа толькі спробы—свайго ажыцьцяўленьня...

Што сучасным станам рэчаў у „Дацкім каралеўстве" не здаволены ані правіца ані лявіца, гэта можа зашмат яскрава выявілася ў выкрытых „сьпісках"—як правага так сама і левага—, якія маніліся зрабіць той ці іншы *пераварот* у Польшы... Аля для нас тутака вялікшую вагу маюць ня гэтыя падземныя, стыхійныя сілы, не гатаваўшыя фактычную, аружную завіруху „сьпіскоўцы", але тыя легальныя палітычныя дзеячы, лідэры вялікшых партыяў, якія адкрыта імкнуцца да таго, каб, публічна апіраючыся *на апінію* польскага грамадзянства і па магчымасьці *„праўна"* зрабіць той сама пераворот, аб якім гэтак няўдала „лятуцелі" папаўшыя ў вастрогі „бальшавікі" польскага „патрыятызму" „пэпэпэкі".

Бо толькі з „аткравеніяў" гэтых лідэраў мы можам высьветліць да канца запраўдную, наймацней і найбольш пераканаўча для польскага грамадзянства ўматываваную думку,—можа, на‘т цэлую ідэолёгію — аб апошняй няўхільнай *канешнасьці далейшага павялічаньня і несправядлівасьці і гвалту ў Польшчы, як адзінага шляху для ўратаваньня і ўмацаваньня дзяржавы...*

І тут на першым месцы трэба паставіць бяз сумліву „аткравеніі", самога быўшага прэм‘ера, самога, гэтак кажучы, шэфу палітычна- „паліцэйскай эгзэкутывы" Хьена-Пяста—п. Вітаса.

---

Газэты падалі зьмест раду прамоваў і інтэрв‘ю б. прэм,ера, якія ён меў у сваім апошнім аб‘ездзе галоўных цэнтраў свайго партыйнага „паньства".

П. Вітас, трэба прызнаць, мае адвагу даволі ясна казаць усё тое, што грамадная частка польскага грамадзянства толькі думае, і дзеля таго вельмі важна зрабіць з яго „аткравеніяў" ўсе тыя вывады, якіх, відаць, папросту нядольны зрабіць сам гэты „самародны" палітычны „геній" сучаснай Польшчы.

Думкі п. Вітаса дзеля таго трэба расшыфраваць да канца, каб таксама да канца адчынілася запраўдная сутнасьць тэй „палітычнай санацыі" Польскай Рэспублікі, без якой, як пераканаы ў Польшчы, не адзін Вітас, адна толькі „фінансавая санацыя" ніколі ня дасьць спадзяваных па ёй рашучых вынікаў...

Пан Вітас кажа, што „Польшча ня можа стацца ахвярай ці лялькай сварлівай інстытуцыі, чым-бы яна ні была і як-бы ні звалася". „Сварлівая інстытуцыя" гэта і ёсьць Сойм, у якім хьена-пястоўцы толькі што страцілі сваю „нарадовую большасьць", а з ёй і пананаваньне ў краі...

„Крыніца права і ўлады—Сойм — павінна быць бязспрэчна чыстай і здаровай, бо інакш яна можа затруціць увесь дзяржаўны арганізм Польшчы і забіць яе будучыну". Але-ж „значная большасьць сябраў Сойму ня толькі ня здольна да працы, але й ня мае пачуцьця адказнасьці" за лёс дзяржавы".

„Ня Польшча існуе для Сойму, але Сойм—для Польшчы", красамоўна кажа п. Вітас, урад якога толькі што ня толькі выдаіў гэтую самую Польшчу, як дойную карову, але і літэральна абрабаваў яе да ніткі—на сотні мільярдаў—якраз на карысьць тых найбольш „здольных" і „адказных" сябраў Сойму, якія прадстаўлялі ў апошнім „польскую большасьць" у краі...

„Пасольскае крэсла ня можа быць прытулкам бясьпечнасьці для прасьледуемых уладай агітатараў". „Аб лёсах дзяржавы павінны дэцыдаваць толькі людзі дасьпелыя і падгатаваныя да гэтай адказнай ролі"...

Толькі пасьля гэтай „артылерыйскай падгатоўкі" п. Вітас пераходзіць да атакі на прадугледжаныя Канстытуцыяй дзяржаўныя правы Сойму...

„Трэба перадусім павялічыць уладу Прэзыдэнта Рэспублікі, надаўшы яму магчымасьць *разьвязаньня і адрачэньня* закападаўчых палатаў у пэўных абставінах—*нават бяз іх згоды*"... Але гэта, як мы ведаем, пярэчыць арт. 26 Канстытуцыі, якая для гэтага вымагае або згоды дзьвюх трэціх галасоў Сойму, або трох пятых—Сэнату...

Значыць п. Вітас дамагаецца *перагляду самой Канстытуцыі*...

Далей п. Вітас дамагаецца гэткай сомой грунтоўнай зьмены выбарнага закону, які і стварыў сучасны няздольны і бэзадказны Сойм...

Ён дамагаецца *зьмяншэньня ліку паслоў*, *павялічэньня да 25 гадоў* іх узроснага цэнзу і *скасаваньня прапарцыянальных выбараў па сьпісках* — на карысьць галасаваньня за паасобных кандыдатаў...

Вельмі цікава, што п. Вітас моцна пераконаны, што ўсе гэтыя яго дамаганьні—пад магутным націскам расчараванай у парлямэнце, нават абуранай проці Сойму, грамадзкай апініі—раней ці пазьней *павінен* будзе зьдзейсьніць сучасны Сойм...

У гэтым вельмі лёгка паверыць п. Вітасу: як лёгка сучасны Сойм адмовіўся ад сваей *„фінансавай* суверэннасьці", тасама можа зрабіць гэта і з *„палітычнай"*...

Бо на гэта яго „польская большасьць" бяз розьніцы партыяў, як пабачым, можа мець зусім *супольныя* падставы...

„Парлямэнтарызм у Польшчы павінен ратаваць сам сябе", заключае п. Вітас гэтую частку прамовы, ці інтэрв‘ю—„калі ня хоча, каб яго заступіла штось іншае"...

---

Цяпер вельмі важна дазнацца, *чыім-жа коштам* павінен будзе „ратавацца польскі парлямэнтарызм",—ад якога „сьмецьця" трэба будзе згары ачысьціць і—праз выбарны закон—забясьпечыць будучы Сойм, каб тым самым адратаваць будучыню Польшчы...

У другой сваей прамове, у Пазнані, на акружным зьезьдзе партыі, п. Вітас зусім ясна адказывае на гэтае галоўнае пытаньне.

„Сойм мае перадусім залішне многа прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў", кажа п. Вітас.

Цяпер ужо цэлая праграма і практыка „палітычнай санацыі" Польшчы, пры гэтым — тым-жа мэтадам *„ашчаднасьці"* ў палітычных „выдатках" на гэтыя меншасьці іх правоў, але адначасна, як пабачым далей, павялічэньня спаганяемых па ёй падаткаў — „даходаў" іх абавязкаў—зрабіліся для нас зусім яснымі...

„Пры сварлівасьці палякаў, кажа п. Вітас, 80 прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў могуць ня толькі зрабіць немагчымай парлямэнцкую працу, але і разсадзіць у кавалкі дзяржаву"...

А дзеля таго, што спыніць сваю „сварлівасьць" палякі, трэба думаць, паводле п. Вітаса, ня могуць, дык ужо зусім даказана, што ўсе гэтыя 80 прадстаўнікоў меншасьцяў павінны быць дапраўды выкінуты з Сойму...

Іншага ратунку няма, бо, як кажа п. Вітас, „усялякія тыя ўступкі на карысьць гэтых выразных ворагаў польскай дзяржаўнасьці, якія выпадковыя

---

К. Меч.

# Пералом С. С. Р. Р.

Усе весткі, што прыходзяць з С. С. Р. Р., павінны мець без параўнаньня большае значэньне, чым весткі з якога-небудзь іншага краю, бо С. С. Р. Р. ёсьць ня толькі першай, але наагул адзінай дзяржавай, дзе ўлада знаходзіцца ў руках работнікаў і сялян і дзе робяцца высілкі ўвядзеньня сацыялістычнага ладу. Таксама можна сказаць, што належнае азнаямленьне з разьвіцьцём тамашніх стасункаў зьяўляецца абавязкам ня толькі кожнага сацыяліста, але і наагул кожнага культурнага чалавека. Ня гледзячы аднак на гэтае, вялізарная большасьць таго, што пісалася і пішацца аб С. С. Р. Р. мае перш за ўсё характар *прапаганды*, пазбаўленай глыбокай вартасьці. У буржуазнай прэсе і літэратуры справы Радавых Рэспублік выкарыстоўваліся агітацыйна, асабліва тады, калі можна было расказваць аб розных, адбываючыхся там страшных рэчах: аб руіне прамысловасьці і транспарту, аб зьмяншэньні пасеваў і ўраджаю, аб ўзятачніцтве і бюракратызме, аб адсутнасьці апалу, тавараў, жыўнасьці, аб голадзе, людаедзтве і т. п. Аднак у сучасны мамэнт на гэтыя тэмы запанавала адносная цішыня.

Не падлягае сумляваньню, што ў гэтых абвінавачаньнях, якія кідаліся на рэвалюцыйны край, вялікую ролю грала злая воля палітычных праціўнікаў. Але знаходзіла яна падпорку ў трагічнай запраўднасьці. Нават у змагаючымся работніцкім лягеры чуваць было галасы, што спроба сацыялістычнага перавароту ў гэткім адсталым краі, як Расея, было гістарычным няшчасьцем работніцкай клясы. Трэба сьцьвердзіць, што гэты пагляд абсалютна памылковы. Праўда, што прамысловацьць у Расеі была слабая, тэхніка неразьвітая, палажэньне прасьветы — фатальнае. Але сіла абароны і пэрспэктывы разьвіцьця рэвалюцыі былі тут, бадай, найбольшыя. Толькі тут адным замахам здабывалася ўлада над пятаю часткай усіх контынэнтаў, у сэрцы двух частак сьвету, над берагамі аж трох акіянаў. Тут яна магла стварыць аружную сілу, якая пазваляла-б ёй мерацца амаль што з усім сьветам, а разам з тым мела тут у *сваіх уласных граніцах* такія разнародныя і магутныя натуральныя багацьці, якіх ня мае, бадай, ніякі іншы край на сьвеце, апрача Злучаных Штатаў у Амэрыцы.

Але-ж, ясна, усе гэта рэчы, якія могуць праявіцца толькі ў бліжэйшай ці далейшай *будучыне*. Першы-ж перыяд рэвалюцыі быў запраўды злучаны нятолькі з надлюдзкімі труднасьцямі, проста нязнанымі ў гісторыі, але і з надлюдзкімі цярпеньнямі. Трэба сабе выразна сказаць, што тая нэндза і нядоля, тое распружэньне ўсей сацыяльнай гаспадаркі,—гэта была цана зробленага перавароту, гэта была трагічная заплата за права ўзыходу на новыя гістарычныя шляхі. Урэшце з гэтага пункту гледжаньня Расея ня была выняткам. Трэба толькі прыпомніць сабе, праз якое пекла цярпеньняў прайшлі таксама іншыя краі ў без параўнаньня лепшых абставінах. Так напр. Аўстрыя, або Нямеччына пераўжываюць такую-ж нэндзу, голад і гаспадарчы развал толькі з прычыны пройгрышу сусьветнай вайны. Польшча прымушана была аплаціць шалёнай дарагоўляй і гаспадарчым бязладзьдзем узварот незалежнасьці. А Расея-ж ня толькі прайграла вайну, але зрабіла й найбольшую ў гісторыі рэвалюцыю. Выстарчыць уявіць сабе лёс якога-небудзь эўрапэйскага краю,—нават так магутнай і багатай цяпер Англіі,—каб яму, а не Расеі выпала на долю *распачаць* сусьветную рэвалюцыю і калі-б край гэты быў так ізоляваны, як С. С. Р. Р.!

Усё сказанае аднак не зьмяняе факту, што надыходзіўшыя з Радавай Фэдэрацыі ў першых гадох жудасныя весткі аб зьнішчэньні, руіне, голадзе і хваробах, ад‘емна адбіліся на разьвіцьці сусьвётнага работніцкага руху. Страх перад тым, каб пераварот не давёў да такіх самых адносінаў, „як у Расеі", бязсумліўна ўстрымаў размах італьянскіх, нямецкіх і іншых работнікаў. Можна судзіць, што страх быў тут, як і заўсёды, дрэнным дарадчыкам, і хто ведае, ці лёс гэтых „асьцярожных" нямецкіх ці італьянскіх работнікаў не зьяўляецца цяпер горшым, чым расейскіх. Але паміма таго ад‘емны ўплыў пачатковых няўдачаў расейскай рэвалюцыі ў вобласьці сацыялістычнага будаўніцтва прыходзіцца сьцьвердзіць,

Цяпер можна, здаецца, сьцьвердзіць, што аздараўленьне гаспадарчых стасункаў у С.С.Р.Р. зьяўляецца ўстаноўленым фактам. У кожнай галіне сацыяльнага жыцьця відаць выразны пералом, усюды кіпіць напружаная праца, гарачковыя шуканьні, карысныя высілкі. Дзеячы і арганізатары С.С.Р.Р. далёкі ад ілюзіяў і ня склонны да оптымізму. У багатай эканамічнай прэсе і літэратуры атрыманыя вынікі паддаюцца халоднаму аналізу і бязьлітаснай крытыцы, а ацэнка не заўсёды зьяўляецца памыснай і лагоднаю. Бо і запраўднай падставай гарачай дыскусіі ўнутры расейскай камуністычнай партыі, якою так цікавіцца буржуасная прэса ўсяго сьвету, — запраўднай прычынай гэтай дыскусіі зьяўляецца розная ацэнка атрыманых вынікаў у гаспадарчым жыцьці. Але-ж якраз гэтая цьвярозасьць зьяўляецца надзвычайна памысным зьявішчам.

Відавочна, ня можа быць нават гутаркі аб тым, каб у некалькіх радкох даць хаця-б схэматычны нарыс зьменаў у гаспадарцы такога вялізарнага краю. Аднак трэба сьцьвердзіць, што 1923 год быў годам далейшай шыбкай адбудовы. Найважнейшае значэньне, ясная рэч, маюць даныя аб вытворчасьці, дзеля таго што ў працягу доўгіх годоў Расея толькі спажывала, вычэрпваючы ўсе запасы, і цяпер адчувае востры таварны голад. Вось-жа вытворчасьць нацыяналізаванай прамысловасьці С.С.Р.Р., аблічаная паводле перадваенных цэнаў, выносіла ў мільёнах залатых рублёў. [1]).

| | мільёны залат. рубл. |
|---|---|
| Календарны 1920 год . . . . | 518 |
| Календарны 1921 год . . . . | 585+13,1% |
| Гаспад. пэрыяд 1921 —1922 [2]) | 760+29,9% |
| Гаспад. пэрыяд 1922—1923 | 1050+38,2% |

Вось-жа, калі ў першыя гады пасьля перавароту вытворчасьць усё падала, цяпер бачым толькі рух угару. У працягу 4-х гадоў вытворчасьць прамысловасьці падвоілася, а з кожным годам прырост быў усё больш шыбкі. Каб за падставу прыняць сучасныя цэны прамысловых вырабаў, дык вартасьць вытворчасьці была б яшчэ шмат большая, дасягаючы нават 2-х мільярдаў залатых рублёў. Наагул шмат шыбчэй разьвіваецца т. зв. лёгкая прамысловасьць, але таксама і мэталургія і капальняная прамысловасьць выказвае выдатны поступ.

Дзеля таго, што аблічэньне *вартасьці* заўсёды можа быць ня зусім дакладным, падаём даныя аб *колькасьці* вытворчасьці найважнейшых галінаў прамысловасьці [3]).

---

[1]) „Социялистическое Хозяйство" № 6—8, 1923 г. стар. 131.

[2]) Цяпер усе аблічэньні, буджэты і рахунковыя зачыненьні у С. С. Р. Р. падводзяцца ня 1-га студзеня, але 1-га кастрычніка, у пачатку восені, якая зьяўляецца пачаткам натуральнага гаспадарчага цыклю у земляробстве, а у пэўнай меры і у прамысловасьці.

[3]) На падставе сталых аглядаў у „Экономическом Обозрении" і „Социялистическом Хозяйстве".

### ЮГАСЛАВІЯ.

Проці ўраду Пашыча арганізуецца моцны опозыцыйны блёк. Палажэньне прэм'ера вельмі няпэўнае.

### ІТАЛІЯ.

Апублікаваны дэкрэт караля аб разьвязаньні парляманту дае агульны агляд надзвычайных пасьпехаў фашыстаўскага ўраду за ўплыўшы год. Ведама,— бо сам-жа п. Мусоліні і пісаў гэты „каралеўскі“ маніфест... Асабліва цынічна гучаць фразы аб тым, што фашысты “вярнулі Парляманту яго даўнейшы аўтарытэт“ і „паправілі фінансы краю“..., а таксама пахвалы нячуванаму па нагласьці фашыстаўскаму выбарнаму закону.

### ЛІТВА.

Літоўскі урад выдаў загад, забараняючы ўвоз у край тавараў польскага вырабу.

### ЛАТВІЯ.

Утвораны новы габінэт, на чале якога стаў адвакат Самуэль, які ўзяў сабе і партфэль міністра заграпічных спраў.

## З Работніцкага жыцьця.

### ЛОДЗЬ.

**Змаганьне за валёрызацыю заработнай платы.** 21 студзеня ў Лодзі адбылася супольная канфэрэнцыя прадстаўнікоў работніцкіх прафэсыянальных саюзаў з прадстаўнікамі тэкстыльнай прамысловасьці ў справе урэгуляваньня заработкаў у другой палове студзеня. Прамыслоўцы яшчэ раней заявілі, што ня выплацяць дадатку на дарагоўлю за першую палову студзеня ў разьмеры 88%, за тое згаджаюцца звалёрызаваць плату на падставе заработкаў з 1914 г. Гэта азначала фактычна абніжэньне заработнай платы, на што не згадзіліся работнікі.

На канфэрэнцыі прадстаўнікі прамыслоўцаў заявілі, што ня могуць застасаваць апошняга паказальніка дарагоўлі з прычыны цяжкага палажэньня прамысловасьці, але згаджаюцца прыняць за падставу залатыя перадваенныя нормы і выплачваць маркамі па курсу валёрызацыйнага франка. Прадстаўнікі усіх проф. саюзаў выказаліся проціў гэтай прапазыцыі, дзеля таго што ваганьні курсу золата цяпер не адпавядаюць ваганьням цэнаў на прадметы першай патрэбы. Канфэрэнцыя не дала ніякіх вынікаў, таксама як і чарговая канфэрэнцыя, якая адбылася 23 студзеня.

**Безрабоцьце** ў Лодзі расьце. У працягу апошняга тыдня зьменшыла працы да 3 дзён у тыдзень 19 фабрыкаў, да 2 дзён — 7 фабрык, адмовілі ў працы на два тыдні—6 фаб. і зусім зачынілася—5 фабрык.

Аб разьмерах безрабоцьця ў Лодзі сьведчаць гэткія афіцыяльныя даныя:

Вялікая бавэлняная прамысловасьць: усяго працуе 69.467 раб., у тым ліку 17.519 нармальна 6 дзён у тыдзень, 4.377—5 дзён, 3.184—4 дні, 33.157—3 дні, 11.232—2 дні; зусім пазбаўлена працы—1.606.

Вялікая шарсьцяная прамысловасьць: усяго працуе 13.599 работнікаў, у тым ліку 1.056 нармальна 6 дзён на тыдзень, 4.287—4 дні, 7942—3 дні, 314—2 дні ў тыдзень; зусім пазбаўлены працы 613.

Такім чынам у Лодзі ў тэкстыльнай прамысловасьці малапрацоўных (г. зн. такіх, што працуюць ня больш 3 гадзін) ёсьць больш, як 60%. У дробнай і сярэдняй прамысловасьці справа стаіць яшчэ шмат горш.

## З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

### ХРОНІКА.

**Закладзіны каапэратыўнага выдавецтва.** У нядзелю, 3 лютага a 10½ гадз. раніцы ў памешканьні Саюзу Спажывецкіх Каапэратыўных Таварыстваў (Вялікая Пагулянка 7) адбудзецца сход закладчыкаў Беларускага Каапэратыўнага Выдавецтва „Праца“. Усе грамадзяне-беларусы, якія цікавяцца справаю выдавецтва, павінны быць прысутнымі на сходзе.

**Агульны сход Беларускага Грамадзянскага Сабраньня** адбудзецца ў памешканьні Сабраньня (Віленская 12 п. 1) у суботу 2 лютага а 5 гад. вечарам і ў нядзелю 3 лютага а 5 гад. вечарам. На парадку дня: 1) Гадавая справаздача Рады Старшынь і выбары новай Рады.

**Паседжаньне Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады** адбылося ў нядзелю 27 гэтага студзеня. Разглядаўся і зацьвярджаны буджэт Віленскай Беларускай Гімназіі.

**Забастоўка ў мэталічнай прамысловасьці ў Беластоку.** 21 студзеня а 10 гад. раніцай распачалася агульная забастоўка ў мэталічнай прамысловасьці. Прычынай забастоўкі зьяўляецца нявыплата работнікам дадатку на дарагоўлю. Настрой сярод работнікаў вельмі моцны.

У гэтай справе профэсіяльны саюз мэталёўцаў зьвярнуўся да старшыні міністраў і міністра працы, якія прызналі дамаганьні работнікаў слушнымі і абяцалі ўгаварыць прамыслоўцаў да выпаўненьня гэтых дамаганьняў.

## Весткі з вёскі.

### З Горадзеншчыны.

Што цяпер у нас на вёсках робіцца, дык трудна і зразумець. Асабліва на вёсцы адбіваецца спадак польскае маркі. У горадзе гэта ня так адчуваецца, як у вёсцы. У гэтым выпадку вёска нясе куды большыя ахвяры. Напрыклад: мой сусед хацеў купіць карову, каб мець які-колечы хвост у хляве і час ад часу паласаваць малачком дзетак. Дзеля выпаўненьня гэтае мэты, ён з 25 кастрычніка м. г. пачаў зьбіраць грошы. Паглядзім, што-ж вышла з яго зьбёраў? Спачатку прадаў ён 40 арш. палатна за 1.600.000 мар.; праз нейкі час — чатыры вазы сена за 8 мільёнаў мар. Прадаў сярмягу за 4 мільёны, самавар за 8 мільёнаў і такім чынам сабраў 21 з паловаю мільён. Паехаў на кірмаш і пачаў таргаваць карову, за якую запрасілі 30 мільёнаў. Праз тыдзень на кірмашы прадаў шасьціпудовае парасё за 15 мільёнаў, а карова паднялася ў цане да 40 мільёнаў. Трохі пачакаўшы прадаў 8 пудоў гароху за 7.200.000 мар, а жонка прадала тры курыцы за тры мільёны мар. Такім чынам набралася 46.700.000 мар., а карова дайшла да 50 мільёнаў. Праз тыдзень прадаў пяць вазоў альшыны на дровы за 9 мільёнаў, але карову аддавалі толькі за 58 мільёнаў. Няма чаго рабіць, трэба дабываць грошы, каб дасягнуць свае мэты. Прадаў жончын андарак, дзьве свайго вырабу сарочкі, 25 фунтаў сачавічы, 9 фун. лёну, 10 арш. палатна і сабраў ўсяго каля 80 мільёнаў, але карова тая падскочыла ажно на 120 мільёнаў. Думаў, думаў мой сусед што прадаць, але ні да чоча не дадумаўся, бо ўжо ня было чаго прадаваць. Асталося прадаць толькі самога сябе, каб сабраць патрэбныя на карову грошы. Прадаў і пайшоў на работу ў лес ставіць мэтры. Папрацаваўшы тыдні тры, скалаціў каля 30 мільёнаў, але карова падскочыла аж за паўтары соткі тых самых мільёнаў.

Астаўся без каровы, без сярмягі, сарочак і нагавіцаў, а жонка без андарака і ў дадатак засталіся без каровы, але з маркамі, за якія і паловы ня купіш цяпер таго, што прадаў.

**Трылісьцік.**

## Дапісы.

### Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

**Зьмена Выканаўчага Камітэту.**

21 сьнежня 1923 году ў Чыкага адбыўся вялікі паўгадавы сход Беларускага Народнага Таварыства штату Іллінойс для заслуханьня справаздачы старога (першага) Выканаўчага Камітэту Б. Н. Т. за шэсьць месяцаў працы (згодна з статутам) і выбараў новага Выканаўчага Камітэту.

Старшынёю сходу быў Ігнат Зырка. Ад імя старога Выканаўчага Камітэту справаздачу зрабіў Пратакольны Пісар (тое, што ў старым краю знача Старшыня Таварыства), адзін з першых пачынальнікаў беларускай самаарганізацыі ў Амэрыцы — Янка Жукаў. Спэцыяльную грашовую справаздачу зрабіў Пісар Грашовых Спраў—Міхась Лукашэвіч.

Сход прыняў да ведама абедзьве справаздачы і падзякаваў першаму складу В. К. за карыстую працу для дабра шматпакутнай Беларусі.

Выбары новага В. К. адбыліся вельмі арганізавана. У склад новага Выканаўчага Камітэту (йзноў на ½ года) ўвайшлі: Пратакольным Пісарам—Лукаш Губарэвіч, Пісарам Грашовых Спраў—Янка Вялічка, Скарбнікам—Базыль Шарабайка, Сябрамі В. К. — Янка Уласін, Хведар Ліхота, Ігнат Зырка і Міхась Лукашэвіч; у Рэвізыйную Камісію ўвайшлі: Янка Жукаў, Аляксей Байда і Антон Гоган. Літэратурным агентам застаўся—Піліп Міхайлоўскі. Пасьля выбараў Антон Змагар зрабіў даклад аб апошніх падзеях на Бацькаўшчыне ў зьвязку з пераменаю ўраду ў Польшчы, а А. Байда зьвярнуўся да сходу і новапрынятых сяброў з гарачай прамовай, клічучы да арганізацыі беларусаў бяз розьніцы веры палітычных пераконаньняў. У канцы сход зацьвердзіў даклад В. К. аб падарожы Язэпа Варонкі па Амэрыцы для дакладаў, лекцыяў і арганізацыі аддзелаў Беларускага Народнага Таварыства. Цікава адзначыць, што Б. Н. Т. пры старым складзе В. К. за першыя шэсьць месяцаў сваёй працы меў 22 сходаў.

**А. С.**

### Беларусы у Латвіі.

23 сьнежня пачаліся калядныя вакацыі ў Дзьвінскай Беларускай Гімназіі.

Разьехалася значная частка вучняў па вёсках да хаты, а тыя, што засталіся ў Дзьвінску, гуртаваліся, як звычайна, каля Гімназіі. Гатаваліся да спэктакляў, да ёлкі, да спатканьня Новага Году, прыходзілі нарэшце проста ў родны будынак, каб пабыць ў ім штодня якуюсь гадзіну. Наступіла 31 сьнежня.

Сайшлася ў Гімназію свая самая блізкая сям'я: ўсё вучыцялі, вучні, бацькі і родныя вучняў, вучыцялі з дзьвінскага павету і Рыгі. Прыехала некалькі курсантак з Белар. Вучыц. Курсаў.

А 9 гадзіне на сцэне пачалася „Батлейка“, інсцэніраваная і пастаўленая вучыц. В. Пігулеўскім пры дапамозе і ў выкананьні вучняў Гімназіі.

Заля была захоплена і пастаноўкай і ігрою „старца“ ў выкананьні вучня І. Карнавухава.

Вопраткі, дэкарацыі, ігра—паказалі, колькі працы і здольнасьці выявілі вучні ў гэтай пастаноўцы.

Нарэшце пайшлі жанравыя сцэны.

Скончыўся спэктакль і ўсе вясёлай чарадою пайшлі ў пакой, дзе быў накрыты стол для ўсіх прысутных. Пачалася агульная вячэра, багатая куцьця з кілбасамі, блінамі, верашчакай і ўсімі іншымі традыцыйнымі беларускімі стравамі.

Гадзіньнік пачынае біць дванаццаць.

Усе ўстаюць.

Хвіліна маўчаньня.

„Не пагаснуць зоркі ў небе“ — запявае П. Мядзёлка і ўсе, як адзін, зьліваюць свае галасы ў агульны магутны хор.

Змоўклі.

Пачынае гаварыць Кіраўнік Гімназіі І. Краскоўскі. Аб гэтай хвіліне, як аб сымволе адраджэньня, гаворыць ён і ў гэтай еднасьці старых і моладзі бачыць ён залог адраджэньня беларускага народу.

Пры ўзгалосах „Слава, хай жыве Беларусь“ — скончыў ён сваю прамову.

Льецца зноў і зноў беларуская песьня, гаворацца зноў гарачыя, энтузыястычныя словы моладзьзю Гімназіі.

Скончылася вячэра.

Яшчэ стаяць на стале такія смачныя ламанцы з макам, а з залі ўжо даносяцца гукі „піаніна“ і моладзь бягом бяжыць туды, каб пачаць Новы Год сваёй роднай „лявоніхай“.

Так спатыкала Новы Год Дзьвінская Беларуская Гімназія.

1-га студзеня адбыўся спэктакль-ёлка вучняў падгатаваўчых клясаў Гімназіі.

Паставілі „Шчасьлівы чырвонец“, паўтарылі некаторыя сцэны з „Батлейкі“.

Ня гледзячы на тое, што быў першы дзень Новага Году і ў горадзе было многа іншых вечарынак, ня гледзячы на тое, што публіка, як і звычайна, пушчалася толькі па запрошаньням, ня гледзячы на ўсё гэтае, вялікая заля Гімназіі была напоўненая. З вялікаю зацікаўленасьцю глядзелі сабраўшыяся „Батлейку“ і з прыемнасьцьцю добрую ігру маладых артыстаў у „Шчасьлівым чырвонцы“.

Далей былі гульні для дзяцей, скокі для дарослых.

8-га студзеня Дзьвінская Беларуская Пачатковая Школа ладзіла ў залі Гімназіі сваю ёлку для дзяцей і бацькоў.

Былі сьпевы, дэклямацыі. Пасярэдзіне залі стаяла вялікая ёлка, аздобленая працаю вучняў.

Блішчэлі на ёй сьвечачкі. Кружыліся каля яе дзеці і блішчэлі іхнія вочкі быццам сьвечачкі з ёлкі.

У канцы атрымалі дзеці па ворачку з цукеркамі, пернікамі, гарэхамі і задаволеныя, шчасьлівыя пайшлі дамоў.

Скончыліся сьвяты.

Зьехаліся вучні і зноў стаіць у гімназіі гул маладых галасоў.

Зноў пачынаецца цяжкая сьвятая праца.

**Гуль.**

12—I—24 г.

## Юрыдычныя парады.

**Пархвенаўскаму падпішчыку.**

*Запытаньне.* На якой адлегласьці ад мяжы суседа можна будаваць дамы і інш. будовы?

*Адказ.* Кожны гаспадар можа ставіць будовы на сваёй зямлі на такой адлегласьці ад суседняй мяжы, каб капеж са страхі быў на сваёй зямлі.

**П. Мацкевічу, в. Яршэвічы.**

*Запытаньне.* 1919 года я прыстаў у прымы, але на гэта ня маю ніякіх дакумэнтаў. Ці мае сілу духоўнае завешчаньне, гмінная опісь, або прысуд міравога судзьдзі, калі цесьць і цешча яшчэ жывуць?

*Адказ.* Завешчаньне мае моц толькі пасьля сьмерці таго, хто зрабіў яго, бо пры яго жыцьці яно ім можа быць пераменена. Завешчаньне лічыцца законным тады, калі яно напісана на цэлым аркушы паперы. Напісана можа быць пабеларуску, папольску ці ў другой якой мове. Яно павінно быць падпісана тым, хто завяшчае, трыма сьведкамі і тым, хто яго перапісываў.

Рэдактар-Выдавец М. Шыла.

Друкарня Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.